# Марыя ШАЎЧОНАК

# РАСА—РАСІНКА

**ВЕРШЫ**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

## ЗАКРАСАВАЛА ЖЫТА

Закрасавала жыта ў полі,
Там лёгкім воблачкам здалёк
Плыве, калышацца паволі
Ледзь бачны сонечны пылок.

Зямля цвіце, зямля спявае,
І хоць няма ў той песні слоў,
А сэрца слухае і знае,
Што гэта песня пра любоў.

Пра вернасць сейбіта і поля,
Самой зямлі спрадвечны гімн,
Таму і блізкая да болю
Усім, без выключэння ўсім.

## ПОЛЕ

У гэтым полі небу лёгка,
Але яшчэ лягчэй вачам.
Зайздрошчу, поле, твайму лёсу,
Непадуладнаму вякам.

Тваё цвіценне — як здзіўленне,
Як залатыя астравы.
У вечна юным абнаўленні
Твае нязменныя правы.

Адсюль бярэ свае вытокі
Даспелы колас — дабрадзей,
Ён узышоў сцяблінкай тонкай
Ад лепшай песні, ад людзей.

І да людзей яго дарога,
Яго напеўны перазвон,
Дзе гэтак поўна, гэтак многа
Святла і сонца летніх дзён.

Без дзіва — дзіва. Проста быццам,
А ўсё ж якая глыбіня!
Тут прагна піць і не напіцца
Шчаслівай веры ў вечнасць дня.

## ВАСІЛЁК

Сімвал роднага краю,
Васілёк сінявокі,
Я табе давяраю
Поле думкі высокай.

Засявай яго дбайна
То надзеяй, то марай,
Надзівіцца ўсім дай нам
Тваім сінім пажарам.

Абагрэй клапатліва
У пахмурную восень
І ўсміхніся шчасліва,
Калі штосьці збылося.

Твая ўвага і ласка,
Твая родная песня,
Як забытая казка
Праз стагоддзі ўваскрэсне.

* * *

Што робіцца сёння ў душы,
Якая там дзіўная сіла!
А кажуць — звіняць капяжы,
І сонца ледзь-ледзь засвяціла.

Якая бясконцая даль,
І неба, як першыя кветкі.
Прашу аднаго: пажадай
Удачы вялікай і рэдкай.

## КРЫЛО МАЁ — ПЕСНЯ

У лёгкасці крыла,
У плаўнасці яго
Я ўпэўнена была —
Жадала аднаго:

Каб толькі найхутчэй
Яно мяне нясло
Да родных мне вачэй,
Да самых цёплых слоў.

І выплываў мой дом,
Знікала ўся імгла:
...Мне песня тым крылом
Служыла, як магла.

* * *

У адзіным шчымлівым сугуччы
І тваё, і маё — назаўжды
Захлынецца ад скрыпкі гаючай,
Як ад чыстай сцюдзёнай вады.

Пераплецена, змешана, зліта,
Раз'яднаць не пад сілу струне.
Перажыта — не ўсімі забыта,
Хіба ж песня яго абміне?

Хоць, здавалася, ўсё адбалела,
Адышло без слядоў і надзей,
Але ўспыхнула кветкаю белай,
Ледзь махнуў над струной чарадзей.

Зноў нязбыўнае кліча і свеціць,
Зноў вярнулася ўсё, што было,
Неўміручае, вечнае ў свеце
Чалавечай надзеі цяпло.

## СІЛА КВЕТКІ

Сіла кветкі і праўда яе
У адным:
                    быць заўсёды прыгожай.
Толькі ўбачыш — душа запяе
І забудзе аб думцы трывожнай.

Трапяткія, жывыя агні,
То блакітны, то ярка пунсовы,
Ім не трэба, паверце, ані
Нават самыя лепшыя словы.

І без слоў яны скажуць паўней,
Што мінута данесці хацела.
Дзе ж ты, вецер вясенні, павей,
Падхапі яе ўпэўнена, смела.

Пранясі над зямлёй, пранясі
Лёгкай плынню свайго ачышчэння.
Хай затрубяць у пушчах ласі
Пра кароткае гэта імгненне.

Толькі кветкі не могуць старэць,
Іх гарачая радасць, як слёзы,
Каб ачысціць і ўраз адгарэць,
Нібы юнае полымя лёсу.

Сіла кветкі і праўда яе —
Сутнасць кожнай душы летуценнай,
Што цвіце — гэта значыць, жыве,
А жыве яна толькі цвіценнем.

## ШЛЯХ МАСТАКА

Для мастака, як фарбы, гукі,
Іх запыняе на ляту,
Бярэ ва ўпэўненыя рукі
І давярае палатну.

Ён выбірае не адценні,
А пераносіць іх напеў:
То неба ў зоркавым мігценні,
То радасць сонца ў кронах дрэў.

Мастак не ведае спакою,
Бо кожны крок і кожны міг
Не змераць меркаю такою,
Каб перавесці ў зрок ці слых.

## ГРОДНА

Па-над нёманскай кручай,
Ля самай мяжы,
Дзе стагоддзі
Аціхлі пад плітамі,
Горад Гродна, прашу я,
Адкрый, пакажы
Свае даўнія тайны забытыя.

Раскажы, як цябе
Неадступна вялі
З тваёй вольніцы
Клікі варожыя,
Як у замках пілі
Каралі, каралі
І князі, што табой пераможаны.

То Літвой шматгалосай,
То польскай рукой
Даўніх вуліц разбег пераплецены,
Быў сталіцай і вёскай,
А сніў пра спакой
І лячыў агнявыя адмеціны.

Горад Гродна, горад родны,
У вяках яго сляды,
Горад самы старажытны,
Горад самы малады.

## НЁМАН

Паназіраць за плынню дня
Імклівы Нёман дапаможа,
У глыбіні нямога дна
Маўчаць вякоў сівыя пожні.

Маўчаць далёкія гады,
Як жвір у пералівах промняў,
А Нёман — вечна малады,
А Нёман — больш, чым проста
Нёман.

Там столькі тайны векавой,
Там столькі мудрасці спрадвечнай,
Дзе б ён ні плыў — вадой жывой
Той бераг кожны ўвекавечан.

Плывуць аблокаў віражы,
Плывуць бяроз і соснаў кроны,
Каб назаўжды заваражыць
І ўжо не выпусціць з палону.

## ЗАВІРУХА

Трывожныя струны нацягнуты туга,
Гатовы азвацца на першы мой крок.
Відаць перамога твая, завіруха,
Ты рвалася доўга сюды і здалёк.

Я вокны завешу, я думкі суцішу:
Спакойна, спакойна, не трэба агню,
Мой боль завіруха сама закалыша,
А з ім сустракацца ці ж мне ўпершыню?

Няхай не заўважыць ніхто, не прыкмеціць,
Як б'юцца мне ў сцены адчайна вятры,
Яны без агляднкі нясуцца па свеце,
Аж гнуцца і стогнуць старыя бары.

Мне б толькі адчаю самой не паддацца,
Нічым не крануць яго тонкай струны,
А недзе шалёныя коні імчацца
І рвецца наперад адзін вараны.

Я раніцай выйду, слядоў пашукаю
І буду дзівіцца: нідзе ні сляда,
І ў сонца сама недаўменна спытаю:
Аб чым я, чаго я, якая бяда?

## НОВАЯ ВЁСКА

А за лесам на ўскраіне —
Родная вёска,
Больш на свеце такой —
Ні адзінай, нідзе.
Зацвітае штораніцы
У росных пялёстках
Радасць лёгкага неба
І ўзлёту надзей.

Вабіць вёска
і кліча,
Недарэмна чакае,
Па ўсім свеце
яе разышліся сыны.
Як пусцела яна
з кожным сонечным маем,
Як хварэла,
калі адляталі яны.
Вокны новыя ўрад,
Малады, маладая.

Зачасцілі вяселлі —
Радзінаў чакай.
Як я рада цяпер
за цябе, дарагая,
Мая родная вёска,—
Гасцей сустракай.

* * *

Прыхавана трывога
Ў маўчанні ракет...
Насцярожана-пільны,
Далёкі сусвет.

Неба сполах бяссонны,—
Спрадвечны дазор,
І халодная чырвань,
І пякучы дакор.

Навярэджаны душы,
Напружаны слых,
Перад светам адказнасць
Адзіна для ўсіх.

## ПАЖАДАЛА ДОЛЯ

На ўзбярэжжы, пад белай таполяй
Залатыя пясчынкі, як зоркі,
Там аднойчы спрачаліся з доляй
Час шчаслівы і дзень яе горкі.

Гаварыў ён: пакінь мяне, браце,
На дажджы, на калючыя пожні.
Лепш прыйду, калі скончыцца ў хаце
Твая радасць, твой промень апошні.

Але доля сама не сцярпела:
А хачу на зямлі гэтай зведаць,
Не адзін толькі колер твой белы,
А і самыя горкія беды...

І цяпер яна нікне ад гора,
Свае словы сама праклінае,
Але верыць: як некалі ўчора
Лепшы дзень свой, нарэшце, спаткае.

## ВЯСЁЛКА

...І абрушыла хмара патокі,
Доўга, доўга змывала сляды,
Аж пакуль у вясёлцы высокай
Не прыціхла ля самай вады.

Яе водбліск гарачы на хвалях
І апошніх дажджынак агні
Абяцаюць блакітныя далі
І такія шчаслівыя дні!

Анідзе і ніколі не страціць
Гэтай радасці роднай зямлі,
Быццам рукі пяшчотныя маці
Назаўсёды цябе абнялі.

## РАЗМОВА

— Мы часта гаворым,
а трэба часцей,
Каб шчыра лілася гаворка.
— Хоць пішаш ты проста,
а трэба прасцей,
Каб слова свяціла, як зорка.
— Прасцей? Але ж мода,
ўскладнёнасць душы,
Дваццатага веку кіпенне...
— Тым горш, разумееш?
А гэтак пішы,
Каб слова было, як натхненне,
Каму як ні слову даверыць, скажы,
Усё, чым жывём, чаму рады?
Падумай, складанасць якая ў слязы?
Ніякай. Уся яна — з праўды.

## ВЕР МНЕ

Буду помніць і помніць.
Ты вер мне.
Толькі гэтак жа шчыра чакай,
А вясна свае сцежкі паверне.
Каб не згас, не адцвіў яе май.

Што мне доўгія, цёмныя ночы
І маўчанне халоднай сцяны,
Калі сэрца паверыць не хоча,
Што між намі навекі яны.

## НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ

Якое дзіўнае святло,
Якое буйнае цвіценне,
Мяне, наіўную, вяло
У край бясконцы летуцення!

Там прабіваліся з нізін
Не кветкі, а жывыя зоркі,
І журавоў асенні клін
Не выклікаў на роздум горкі.

Жыло бяссмерце, як закон,
Які нікому не парушыць,

І сонца радасна з акон
Свяціла ў хаты, нібы ў душы.

Ніхто ні ў чым не вінават,
Што летуценне — не навекі,
Што сумны дзень развaг і страт
Падсцерагае ўсіх спрадвеку.

О, як жа трэба даражыць
Усім, што страчу і набуду,
Жыцця крутыя віражы
Не абмінуць майго прысуду.

## СКРЫПАЧУ

Што ў той струне,
                    што ў той мінуце,
Якую выкажа струна,
І ў той жаданейшай атруце,
Што сэрцам выпіта да дна?

Перахварэць, каб з новай сілай
Адчуць і боль, і забыццё,
Ці ж не аб тым мяне прасіла
І ваша скрыпка, і жыццё?

## ДЗВЕ РАКІ

Ёсць дзве ракі, як сваякі,
Без іх ніяк не абыдуся,
З глыбінь вякоў і праз вякі
Яны плывуць па Беларусі.

Бе — ра — зі — на!
Які разліў,
Якія ціхія затокі!
Калісьці рыбу тут лавіў
Яшчэ прапрадзед мой далёкі.

Рака спяшае да Дняпра,
І ў ёй, нібы агеньчык сіні —
Мая найлепшая пара
Мільгае ўсё з празрыстай плыні.

Шчаслівы след, маленства свет
На гэтым беразе бясконцым,
Ён і цяпер глядзіць мне ўслед
Вачамі ранішняга сонца.

А Нёман — кліча ў новы дзень,
Не разлюбіць яго ніколі,
Бо тут, на нёманскай вадзе,
Вянком купальскім — мая доля.

## ТАКОЙ БЯДЫ

Не пішацца — такой бяды!
Я адкладу далей паперу,
Калі губляе слова веру,
То час шукаць жывой вады.

Дапамагу яму з'явіцца
У новым вобразе агню,
Каб зноў хацелася дзівіцца
На прыгажосць і цеплыню.

Хай непрыкметна знікнуць цені,
Як дні пустога забыцця,
Калі напоўняцца ўсе сцены
Дыханнем радасным жыцця.

## ВЕРА

Паверыць апошні раз,
А потым — хай будзе, што будзе,
Паверыць, як верашь у нас
Надзейныя, добрыя людзі.

Паверыць, сказаць: не было
Нявер'я мінуты бяскрылай.
І будзе нязгасным святло,
Якое вясна запаліла.

Паверыць не позна яшчэ,
Надзея іскрынкай гарачай
У самым прадонні вачэй
То ўспыхне, то ціха заплача.

* * *

Не пакінуў слядоў,
І назад не вярнуся.
Сярод лёту гадоў
Невідзімкай згублюся.

У імгненні крыла
Толькі слова ўваскрэсне:
Я заўсёды была
Неразлучная з песняй.

## ПРАДВЕСНЕ

Дзень затрымаўся на срэбнай грані
Ільдзінак хліпкіх і цеплыні,
Для першых кветак вясна іграе
У струнах сонечнай вышыні.

Адчуць іх подых і прыпыніцца,
Каб не парваць трапяткую ніць,
Зачэрпнуць жменьку старай іглiцы
І доўга водар сасновы піць.

Пачатак новы, пачатак смелы,
Ўсё далейшае зробіць час —
Аж камень трэснуты, заімшэлы
Зазелянее бы ў першы раз.

* * *

Як многа дадзена прыродай, —
Усё не вычарпаць да краю,
А я бяднею з кожным годам,
А я губляю і губляю.

Часцей губляюцца дарогі
То да сяброў, то да знаёмых,
І застаецца позірк строгі
Людзей, якіх не спазнаем мы.

І ўсё ж даводзіцца спыняцца
То перад тым, то перад гэтым,
Каб назаўсёды развітацца
То з лепшым днём,
то з лепшым летам.

4 Зак. 787



Як песню, я слухала поле,
Мне пелі яе каласы.
Танюсенька-тонка, павольі
Плылі па-над ім галасы.

Там недзе на скрыпцы зялёнай
Іграў весялун-кавалёк,
А ў небе чародкай здзіўлёнай
Бялелі пушынкі аблок.

Куды яны зніклі — не знаю,
Не зводзіла быццам вачэй.
А толькі крынічка малая
Як песня маленства цячэ.

## КРАСАВІК

Красавік, красавік,
Малады і горкі,
Падзівіся: лесавік
Рассыпае зоркі.

Засвяціўся цэлы край
Кветкамі-агнямі.
— Заблудзіся, пачакай,—
Просяць яны самі.

Бачыш, радуюцца ўсе,—
Пачалося свята,
І здзіўляюцца вясне,
Як яна багата!

Красавік,
 красавік,
Малады, імклівы,
Як нястомны чараўнік
Ты для ўсіх шчаслівы.

* * *

Бегла дзеўчына па кладачцы,—
Не баялася вады,
Асакой-чаротам кланяўся
Лёгкі ветрык малады.

Бегла дзеўчына па ўзгорачку,—
Птушка скінула пяро,
Запаліла неба зорачку,
Каб далей відаць было.

Бегла дзеўчына сцяжынкамі,—
Расступаліся кляны,
Ці то сыпалі расінкамі,
Ці каралямі яны.

Толькі даль была маўклівая,
І туман, як лёгкі дым,
Бегла дзеўчына шчаслівая
І не думала аб тым.

## КАЛІНА

З гэтай песняй вясна зачарована
Густа сеяла кветкі, траву,
Гэтай песняй пара вечаровая
Ускружыла маю галаву.

А каліна была беласнежная
І не ведала гора-бяды,
Зашумелі гаі прыбярэжныя,
Зашумелі трывожна сады.

Ледзь маланка мільгнула нясмелая —
Загрымелі грамы, загулі
І аціхлі пялёсткамі белымі
Ля каліны,
на мокрай зямлі.

Але сонца з-за хмар прабіваецца,
Не баіцца каліна вятроў,
Толькі чырвань гарыць-разгараецца,
Як спрадвечная вера-любоў.

Не забуду той песні ніколі я,
І не раз яе светла сасню.
Грайце, грайце, музыкі вясёлыя,
Зноў каліна сустрэла вясну.

## ПЛЫВУЦЬ РЭКІ

Плывуць рэкі, плывуць чыстыя
Аж у самы дальні край.
Папрасіла гарманіста я:
— Мне «Купалінку» зайграй.

Рута-кветка ў хвалях білася,
Ды нядоўга праплыла,
Недарэмна мне прыснілася,
Што пакінутай была.

Пацямнела поле роўнае,
Толькі цені на вадзе.
За тваё, за сэрца роднае
Не сустрэну лепш нідзе.

Плывуць рэкі, плывуць чыстыя
І не знаюць пра бяду,
Над ракою вечар выстаю,
А спакою не знайду.



Чым вясна багацейшай была?
Можа, кветкамі, можа, надзеямі,
Але так яна пела-цвіла,
Што ніхто не застаўся абдзелены.

Шчодра сыпала трэлі-расу,
Зіхацела вясёлкамі-промнямі:
«Я прыйшла,
я жыву, я расту.
Я хачу, каб такой мяне помнілі».

## ЗДЗІЎЛЕННЕ

Штось непарыўнае, жывое
Паміж табой і мной, вясна,
Яно акружыць гулкім роем,
Як хвалі лодку без вясла.

Дарога згубіцца ў тумане,
Дзе маладзік пакінуў след.
А сэрца здзіўленае гляне
Зусім па-іншаму на свет.

Святое, роднае да болю,
Яго затопіць, нібы плынь,—
І заспяшыць душа на волю,
Як кветка першая з глыбінь.

## ЦЕПЛЫНЯ

Гаркота слова, соль слязы —
Усё аднолькава пякуча,
А ў белы бубен маразы
Так гучна б'юць —
аж трэск ад суччa.

Зіма. Стамілася зямля.
І рэкі залеглі на мелі,
Ды ўсё ж кругі вакол камля,
Як ад бяссоння, пачарнелі.

Глыбока дзесь кіпяць ключы,
Балюча ім ці, можа, горка.
Што не саграюць далячынь
І нават блізкага пагорка.

Не весела сярод снягоў,
Адлегласць сэрцы раз'яднала.
Цяпельцам цепліцца любоў,
А цеплыні вакол так мала.

* * *

Не разлюбі зару над Нёманам —
Сузор'е неба і вады —
Яго мелодыя знаёма нам,
Там нашы юныя гады.

Паміж дамоў, паміж прысадамі
Дыханне горада, як сон.
Над самым берагам прысяду я
Пад соснаў спеўны парасон.

Дажджынкі скоцяцца празрыстыя
І затанцуюць на вадзе,
Нібы імгненні тыя чыстыя,
Што не забудуцца нідзе.



Там, каля вёскі зарэчнай,
Ля маладых чабароў
Свеціцца радасцю вечнай
Гордае слова — любоў.

Хай не хавае прызнання
Ценем прыкрытых павек,
Ціхае слова — каханне,
Дзіўнае слова — навек.

Самае даўняе ў мове,
Час яго чар не змяніў,
Толькі ў адным гэтым слове
Ўсё прыцягненне зямлі.

## РАЗВІТАННЕ

Вера, надзея, пакута
І нечаканы адчай...
Вось і настала мінута
Ціха сказаць: «Выбачай».

Аб спахмурнелыя далі
Промень разбіўся і згас.
...Людзі, якіх мы кахалі,
Так непадобны на нас.

* * *

Не да кожнага прыходзіць
Дзень святочны, дзень вясновы,
У вясёлым карагодзе
Адгучаць і сціхнуць словы.

Можа, больш і не спаткае
Урачыстасць іх ніколі,
Толькі песня, як жывая,
Адгукацца будзе болем.

## АБУДЖЭННЕ

Вады таемнае мігценне,
І чысціня, і цішыня,
Туман — чыёсьці летуценне,
Як грыва белага каня.

Яшчэ не выказана радасць
У ранняй песні жаўрука,
Адну з найлепшых сваіх раніц
Сустрэла летняя рака.

Ёй сёння верыцца бясконца
У чары ціхіх чабароў.
Зямля заўсёды верыць сонцу,
Як сэрцу верыцца ў любоў.

## ЭЦЮД

Ты заспяваеш, а поле падхопіць,
Ты засмяешся, а неба паўторыць.
Радасці хопіць і сонейка хопіць,—
Плешчыцца, б'ецца блакітнае мора,

А па-над рэчкай чаромхі разлівы,
Ды салаўіная шчырасць святая.
Чуеш, на той вунь пралесцы шчаслівай
Белы вяночак таксама спявае.

Бачыш, над берагам хіляцца вербы,
Каб падзівіцца на воблік свой весні,
Верыць зямля, у найлепшае верыць
І адгукаецца новаю песняй.

* * *

А разбіваецца крышталь
З працяглым звонам, быццам плачам,
То набліжаецца няўдача
З глыбінных самых бурных хваль.

Яшчэ аддалены іх лёт,
А ўжо гняце і томіць сэрца.
...У запячатаным канверце
Пад сургучом — пякучы лёд

Кранеш — і разляціцца ён
На мар няспраўджаных драбніцы.
...Ах, колькі раз балюча сніцца
Усё адзін і той жа сон!



Аблачынкі белы парасон —
Пасланец маланкі недалёкай,
Чую твой гарачы пераазвон
За сасновай кронаю высокай.

Дзесьці там успенена імгла,
Хмара разбіваецца аб хмару,
А над канюшынаю пчала
Дапівае кропелькі нектару.

Гнеў маланкі — невыказны гнеў,
На паўнеба меч яе зламаўся,
І дажджу доўгачаканы спеў
Падхапіла радасна зямля ўся.

Ачышчэнне — коціцца ручэй,
Абнаўленне — чуецца са ўзгорка,
А зямлі ўздыхаецца лягчэй,
І ў душы праменіцца вясёлка.

## БЯРОЗА

Як ні здзівіцца, не спыніцца
Каля бярозы гэтай белай.
Калісьці тут жыла сініца
І так пра ўсё шчасліва пела.

Аж свет яснеў, як дзень вясновы,
Ён абяцаў,
дарыў і клікаў,
Як многа неслі ў сабе словы
Ў сугуччы радасці вялікай!

...Бяроза тая.
І не тая,
Яна паменшала, як быццам,
Стаіць самотна залатая,—
Не адысці і не забыцца.

Няма бясконцасці бясхмарнай,
І песня ў выраі далёка.
...Калі душа разлюбіць мару,—
Зямля здаецца адзінокай.

* * *

Яшчэ над Нёманам спакой,
І сонца першае дыханне
Не ўскалыхнула над ракой
Лістоты лёгкай трапятанне.

Яшчэ плыве павольна сон
У шматгалоссі каляровым.
Жыве надзея ў сховах сот,
Нібы пчаліны мёд кляновы.

Адкрыю вочы — цішыня,
І будзе цэлы дзень шчаслівы,
Бо зноў і зноў прыпомню я
Яго пачатку пералівы.

Яго асветлены прыход,
І сны, і сонечнае ранне,
Дзе пачынаецца палёт
У край бясконцы спадзявання.

* * *

Ні багатых сталоў, ні гасцей,
Толькі цемра пульсуе ля скроні,
Як прывід нежаданы расце,
Акружае, сціскае ў палоне.

Цішыня — самы строгі суддзя,
Невядома за што дакарае,
Перагорне старонкі жыцця
І на кожнай пазначыць — пустая.

Перагорне пільней усе — зноў
Не ўсміхнецца,
ні ў чым не пахваліць...
Аж да рання не знойдзецца слоў,
Каб магла супакоіцца памяць.



Я ноччу той нідзе не варажыла,
Лягла дарога дальняя сама,
А потым я адна за ўсіх рашыла,
Што тут майго нічога больш няма.

Старыя ліпы ля бацькоўскай хаты,
Як тры сястры, найлепшыя сястры,
Я ў чымсьці перад імі вінавата,
Тут ні пры чым купальскія кастры.



Аб падаконнік стукне глуха,
У шыбы дзынкне: паўтары,
Міжволі чуйна ловіць вуха
Усё, што ў цемры, на двары.

Аднекуль ліст прыбіўся шэры,
Як быццам хоча паглядзець,
Ці можа сэрца зноў паверыць,
Як будзе дрэва зелянець.

Ці зможа, ці не захлынецца,
Як захлынаюцца агні?
І сапраўды, цішэе сэрца,
Хоць не знаходзіць цішыні.

Мае бясконцыя дарогі,
Няўжо дарэмна я іду,
І не сустрэну больш нічога,
Чым гэты холад і ваду?

Няўжо не вырвацца ніколі
З тваіх дажджоў, з тваіх снягоў,
А недзе там, на вольнай волі,
Выходзяць рэкі з берагоў.

* * *

Перада мной
маланка блізка бліскае,
Бязлітасны і асляпляльны меч,
Дарогі ўсе далёкія і блізкія
Гады мае рассыпалі, як медзь.

Іх скарб, іх голас пранясу, шчаслівая,
Мне толькі не пад сілу пустата,
Хоць часам і залішне мітуслівая
Была мая наіўнасць-прастата.

І ўсё ж я рада, што ніколі шчырасцю
Не абдзяліла ні адзіны міг,
Што і цяпер не рвуся і не вырвуся
Ад самых дальніх, ад нялёгкіх іх.

Няхай зямля няўмольны час адлічвае,
Я разам з ёй у далячынь лячу,
І не жадаю іншага аблічча я,
А выказаць паўней сябе хачу.

* * *

Вясна! Якое гэта слова!
Вясна!
Падумайце — вясна!
Хай для людзей не ўсё ў ім нова,
А для зямлі — то ўзмах вясла.

З ім адплыве яна імкліва
У прасвятлёны далягляд,
Дзе прачынаецца шчымліва
Яшчэ бязлісты, ціхі сад.

Ажыць, узняцца, пацягнуцца
Да сінявы, да вышыні,
А ў першых лужынах нап'юцца
Вясны праменныя агні.

Усё жывое ўзварухнецца,
Уся зямля папросіць «жыць»!
Ці ж дзіўна, што аднойчы сэрца
У лад ёй шчыра загучыць.

І так захочацца на волю
З майго будзённага кутка,
Аж сэрца сціснецца да болю
Ад свісту першага шпака!

І колькі ў ім замілавання,
Што зноў вярнуўся ў родны край,
Дзе і з-за хмурнага світання,
Ужо глядзіць зялёны май.

* * *

На стамлёных руках,
На далёкіх шляхах —
Адгалоскі далёкага ўчора,
Дзесьці ў хмурнай начы,
Яно доўга маўчыць,
Нават сон неспакойны не зморыць.

Далячынь, далячынь,
Ты мяне палячы,
Калі цесна, няўтульна, тужліва,
Калі вецер шуміць,
Калі сэрца баліць
І гадзіннік застыў сіратліва.



Калі цямнее белы свет —
Выходзяць рэкі з берагоў,
Няхай адзін, адзіны след
Пакіне мне твая любоў.

Хай будзе ўсё не так, не так,
Як спадзявалася сама,
І ўсё ж я ведаю, аднак,
Што выйсця іншага няма.

Хвала чыясьці і праклён
Хай абміне, як віражы,
А я прыходжу на перон
Хоць на пероне — ні душы.

А я ўсё роўна буду сніць
То ветразь белы, то вясло,
І толькі з той крыніцы піць,
Дзе кветкай сонца прарасло.



Світанне сеецца праз сіта,
І аціхае лістапад,
Ці час журыцца аб пражытым,
Ці час аглядвацца назад?

Не ў ім адным,
не ў ім крыштальным,
Яшчэ запаліцца зара,
Яна і сёння хмурным раннем
Мяне паклікае: «Пара».

Пара да спраў, чакае праца,
Чакаюць позіркі людзей,
Пакінуць іх не маеш права,
Яны чакаюць, зразумей!

## ВЕРАСЕНЬ

Не чакаю вернасці ад верасня,
Не чакаю сонца ад імжы,
Але вера непазбежна вернецца,
Як сабе старанна не ілжы.

Можа, вера і залішне ўзнёслая,
Толькі ведаць трэба, дзе выток,
Ткалася яна калісьці вёснамі
І ў жыццё ўпісала свой радок.

Хай сабе маўчаць дарогі дальнія,
І туман гусцее, як адчай,
Не спяшайся, верасень, аддай мне іх,
Лепш садзілася ў поезд, выручай.



Не давала мне сэрца спакою,
Не імкнулася думкамі ўвысь,
Я сама ад такога настрою
Уцякаць спрабавала кудысь.

І была, як ратунак, дарога,
Незнаёмыя людзі ўначы.
А душа не хацела нічога,
Толькі ціха прасіла: маўчы.

Хай ніхто і ніколі не знае
Гэтых горкіх адчайных хвілін.
Чалавек сябе доўга шукае,
Каб паверыць, што ён не адзін.

## НЕ ПАДУМАЛА

Вінавата, вінавата я,
Для сябе ўсе словы злосныя.
Я сама сябе не мілую
І караю за адно:

Там, дзе ўсё было адноснае,
Не падумала, не ўзважыла,
За туманам не заўважыла,
Што дарогі не відно.

Не хацела, ды пакрыўдзіла,
А жадала як найлепшага,
І хацелася мне радасцю
Аддзячыць за дабро.

...Апусцелі, зажурыліся
Думкі шчырыя, ранейшыя,
Паплыло над пералескамі
Павуціны серабро.

І нічога не паўторыцца...

* * *

Дзесьці далёкая зорка бялела,
Слова маўчала, а сэрца балела,
Ноч абламала аб цемру крыло,
Колькі той ноччу бясконцай сплыло!
Што на душы ад яе засталося,
Хай памаўчыць гэта ціхая восень.



Як першы раз гляджу на свет,
Стаю затоена ў здзіўленні,
Запомніць трэба ўсё навек,
Сабраць, адчуць усе адценні.

Неразгаданы, трапяткі,
Мой дзень нясе няспынны Нёман
У пераліўнасці ракі,
У далячыні невядомай.

А сярод кветак і травы
Такое сонечнае неба!
Дзівіся, радуйся, жыві —
Нічога лепшага не трэба.

## ДАРОГА

Дарога — аж да небасхілу,
Ані канца, ані мяжы,
І хто ёй даў такую сілу,
Што ўсё імчыцца і бяжыць?

Не спіць ні звечара, ні ўночы,
Спяшае ўдзень і давідна,
Як ні ўзірайся — слепіць вочы,
А ўсё адна, яна адна.

Ледзь затрымаецца ў нізіне —
І зноў змяіцца ля прысад,
Калі ж і дзе яна спачыне,
Калі павернецца назад?

Куды, нястомная, імкнецца,
Неназіраючы гадзін?..
Дарога, як жывое сэрца,
Якому нельга на спачын.

* * *

Адступаюць сумненні,
Разыходзіцца цень.
Што ты значыш, імгненне —
Цэлы вечар ці дзень?

У парыве адзіным
Толькі слова ўсплыло —
Прамільгнулі гадзіны
Ледзь прыкметным крылом.

Я шукаю, а значыць,
За надзеяй спяшу.
Радасць творчай удачы
Паланіла душу.



Хаця і дрэмлюць над ракою
Астаткі замкаў мураваных,
Іх ледзь крані — няма спакою,
Не ямы там — жывыя раны.

У старажытнасці развяжнай
Свае далёкія законы,
А галасы людзей адважных
Праб'юцца праз гадоў мільёны.

## БУДУЧЫ ДЗЕНЬ

Заранка ў небе разгараецца,
І хоць святлее вышыня,
Ніякі дзень не паўтараецца —
Найгоршы лёс, відаць, у дня.

Заўжды адзін, як след каметы,
Парыў паветра і надзей,
Кароткі ўздых малой планеты,
Кароткі міг жыцця людзей.

Але ўсё некалі даверыцца
Яго імгненнаму агню,
Чаму ж, чаму нам гэтак верыцца
Заўсёды будучаму дню?

## А БЫЦЦАМ — І ЛЮДЗІ

Баяцца шчырасці, як беднасці,
Не дапускаць прастаты.
Сябруюць толькі ў адпаведнасці:
Ты — мне, і я табе — як ты.

Усё абстаўлена, абвешана
І перапоўнена даўно,
Але душа зусім не ўсцешана,
І гэта кожнаму відно.

Чым больш дабра сюды прыносіцца,
Чым больш спаўняецца надзей,—
Тым больш душа кудысьці просіцца
Ад мітусні і ад людзей.

Як цяжка ёй адной даводзіцца
Сярод нямых, сярод глухіх,
Дзе слова, што само народзіцца,
Баяцца вымавіць услых.

## СЯБРАМ-СУСЕДЗЯМ

Хоць у гэтых краях не была я,
Не чужая зямля, не чужая.
Тут знаёмыя неба і дрэвы,
Тут знаёмы рачулкі напевы.

І на шчырыя ўсмешкі багаты
Незнаёмыя хлопцы, дзяўчаты.
Па-сяброўску, адкрыта, сардэчна
Запрашаюць застацца навечна,
Так прыемна і лёгка на сэрцы,
Гэты край не забыць мне, паверце.

* * *

Мільёны званочкаў не ведаюць слоў,
А гэтак навокал напеўна.
Асенне-задымлены спеў верасоў
Не кожны пачуе, напэўна.

Плыве ён па ўскраінах ціхіх палян,
Над лёгкімі струнамі бору,
Прыйдзі, прыпыніся, уважлівей глянь
На гаму асенняга ўбору.

У ёй, як ні дзіўна, ёсць росчырк вясны,
А восень хаваецца быццам,
І нельга зямлі на шчаслівыя сны,
На лепшыя мары забыцца.

Хоць, можа, і здасца на момант які,
Што гэта — фінал развітання,
Ды гляне з-пад сонейка, як з-пад рукі
Вясновы пачатак чакання.

То вера адвечная кветак і дрэў
У сілу свайго абнаўлення,
А спеў верасовы —
як вечнасці спеў,
Як подых жывога цвіцення.

* * *

Адвячорак напоўніў роздумам
Заімглёных ялін рады,
Як спасцігнуць жывое розумам,
Калі ўсё тут — з маёй радні?

Далі — родныя,
Дрэвы родныя,
Пераліўны разбег ракі,
Каля Нёмана травы росныя
Прабіваюцца праз вякі.

Невычэрпнае, непарыўнае,
Дзе пачатак яго слядоў?
Услухаюся ў слова дзіўнае
На высокай струне гадоў.
Сімвал роду і сімвал краю
Спасцігаю ў мігценні зор,
Паўтараю, як адкрываю
Словы — неба, зямля, прастор.



Думак плынь закружана між віру,
Хай яна гаворыць, мы — маўчым,
Раскажы даверліва і шчыра,
Чым жывеш і думаеш аб чым?

Я адкіну ўсе свае здагадкі,
Толькі сэрцам слухаць я магу
І табе паверу без аглядкі,
Раздзялю і радасць, і тугу.

Хоць пакуль і сказана так мала,
Ды не ў тым галоўнае, о не.
Толькі мара пець не пакідала,
Толькі б вочы верылі ў мяне.



То раптам бяда, то няўдача
Слязой неспакойнай гарэць.
Ад гора чужога заплачу,
Сваё паспрабую схаваць.

Сваё, можа, знойдуцца сілы
Пранесці, паправіць, змяніць,
А як жа стаяць ля магілы
І сэрцам спакойнаю быць?

Не веру я ў слова «чужое»,
Бо знаю — чужога няма,
Ёсць толькі глухое і злое,
Чаго не даруе зямля.

## КАЛЯ СТУДНІ

Аж на самам дне схавана
Слова залатое.
Як ні чэрпаю старанна,
А вядро — пустое.

Каля студні многа люду,
Гамана і жарты.
Колькі ж слухаць я іх буду,
Ды ці слухаць варта?

Не хачу звяртаць увагі,
Затыкаю вушы,
То насмешку, то знявагу
Перацерпіць мушу.

Я прайду, як і не бачу
Поглядаў варожых,
І няхай, чаму не плачу,
Думаюць — варожаць.

## СКАЖЫЦЕ СЛОВА

Скажыце слова, што не памірае,
Няхай яно засвеціцца зарніцай,
А потым доўга і шчасліва сніцца
І кожны раз па-новаму здзіўляе.

Скажыце слова. Колькі ў ім надзеі,
Якая радасць поіць яго шчодра!
Няхай гучыць упэўнена і горда,
Няхай з гадамі толькі маладзее.

Скажыце слова, верце яго чарам,
Ці ж не яно цвіло калінай белай,
Ці ж не яно смяялася і пела
І ціхім разгаралася пажарам?

З яго жыццё бярэ свае вытокі
І дорыць свае лепшыя світанні,
І пошукі, і веру, і чаканні,
І ўзлёт душы бязвоблачна высокі.

## НА ВЯКОЎ СКРЫЖАВАННЯХ

На вякоў скрыжаваннях жыву я
І не ведаю слова «спакой»,
Мне б хацелася вечнасць жывую
Запыніць хоць на момант рукой.

Паглядзець, а з чаго ўся саткана
І з якіх там адценняў вянок?
Можа, вечнасць — пякучая рана,
Можа, ціхі, спакойны паўзмрок.

Мо загадка, якую ніколі
Разгадаць не пад сілу вякам,
Ці бясконцае неба ды поле,
Што адкрыты халодным вятрам?

Што ў ёй самае блізкае сэрцу,
І ці тоіць вялікі сакрэт,
І з якога глыбіннага сэнсу
Збудавала планету-сусвет?

За пытаннем — пытанне. Бы ў лесе,
Дзе сцяжынкі падманяць не раз,
Ды аднекуль пачулася песня
І з'явіўся прасцейшы адказ:

«Ты прыпомні, з якіх я вытокаў
І які пачынаю свой век,
Як вядома, заўсёды высока
Цэніць песню жывы чалавек,

І яна праз сівыя стагоддзі
Прабіваецца ў душы людзей,
То пралескай блакітна ўзыходзіць,
То праменіцца іскрай надзей».

## ДЫЯЛОГ З НЕБАМ

Чаго мы ў неба сёння просім,
Хоць не на словах, а ў душы:
Найперш за ўсё:
— На нашы просьбы
Хутчэй, як можаш, адкажы.
Не пашкадуй свайго блакіту,
Сваёй праменнасці, агню.
Будзь па-сяброўску ўсім адкрыта
І чыстым, нібы ўпершыню.
Пашлі спакой, пашлі натхненне,
Не паскупіся на любоў,
Не забывай пра ачышчэнне
І ў прасвятленні не адмоў.
Жывём усе нязменнай верай
У дабрыню тваіх задум,
Хай толькі вецер не паверне
У бок, дзе хмарай — чорны сум.
Адкуль жахлівыя маланкі
З пагрозай шчэрацца на свет,
Дзе не вітаецца наранку
З суседам бліжні іх сусед.
А неба:
— Я само прасіла
Не першы дзень, не першы раз,
Не забывайце — я без сілы,
Залежыць толькі ўсё ад вас.



Слова простае, нечаканае
Чыстым золатам адчаканена,
Хоць спяшалася, ды спазнілася,
Са шляхоў-дарог дзесьці збілася.

Колькі дзён-начэй, не прыпомню я,
Сэрца клікала ўсё нястомнае,
Адшукаць яго намагалася,
На ўсе шолахі адгукалася.

Ні сцяжыначкі не абходзіла,
Ды нідзе яго не знаходзіла,
Толькі дні-гады не спыняліся.
Непрыкметныя, усё змяняліся.

Пракрычалі раз гусі-лебедзі,
Што няма яго, што няма нідзе,
Пачакала я — і змірылася,
А яно якраз і з'явілася.

Чыстым золатам адчаканена
Слова простае, нечаканае,
Запалілася яркай зоркаю,
А вакол палын-трава горкая.

## ЮБІЛЕЙ

*Прадзеду Якіму*

Юбілей. Юбілей...
Цэлы век ці імгненне,
Сто гадоў ці адзіны
кароценькі дзень?
А за вокнамі сцішыўся
вечар асенні,
Як у сэрцы глыбока
затоены цень.
Пераплецены струны
бясконцасцю ліній,
Гэтак мала і многа
ў адзіным жыцці!
І здзіўляе адно:
што равесніца-ліпа
Па-ранейшаму будзе
як летась цвісці.

## ЖАРТОЎНАЕ

Касіў Ясь канюшыну...
*З песні*

А чаму ж той Ясь вясёлы
Канюшыны не касіў,
Можа, быў занадта кволы,
Што работы не прасіў?

І маўчаў, нібы зацяты,
Не спяшаўся на абед.
Але выбеглі дзяўчаты,
Дык і ён — за імі ўслед.

## ПЕРАПЁЛАЧКА

Скінь мне, перапёлачка, жалейку,
Песня твая вечная — пра жаль,
А ў мяне слязінка з-пад павейкі
Светлая чамусьці, як крышталь.

Ты дарэмна так на сумнай ноце
Часта заціхаеш незнарок,
Не сумуюць тыя, хто ў палёце,
Хто вярнуўся, як і ты, здалёк.

Лепш такой застанься чараўніцай,
Каб ніхто не думаў пра палон,
Ды на гэты спеў не мог забыцца,
Думаў бы — шчаслівы сніцца сон.

## РЭХА

Вясна даўно дапела песні,
У павуцінках верасы,
А рэха дальняе: «А-ле-ся!»
Мне паўтараюць зноў лясы.

Цягнік імчыць, мільгаюць рэйкі,
Цямнеюць смутна мурагі,
Але ўсё ловіць мяне рэха
Сілом нязведанай тугі.

І голас, кінуты ў адчаі,
Нібы губляецца ў журбе,
З якіх глыбінь ён выплывае,
Чаму ўсё кліча да сябе?

А-ле-ся... Дзе ж яна, Алеся?
Шумяць бярозы і дажджы,
...А можа, гэта толькі песня
Ці даўняй мары міражы?

## НАДЗЕЯ

Загарыцца заранка барвовая
Ці далёкі, шчымлівы ўспамін.
І былое маё і ўсё новае,
Як свет белы, зышлося на клін.

Аніякага выйсця не бачыцца,
Ані пробліску хмурных дарог.
І не верыцца — штось перайначыцца,
І не бачна, каб хтось дапамог.

Толькі выстаяць трэба, асмеліцца,
Каб рашуча ступіць за парог,
А мяце завіруха-мяцеліца
Не для тых, хто надзею збярог.

## КРЫНІЦА ЖЫВОЙ ВАДЫ

Колькі радасці ў кожнай іскрынцы
Што праменіцца шчодра з вачэй.
Па каменьчыках белых крыніца
Там, ля Нёмана дзесьці, цячэ.

Калі з хвалямі думкі сальюцца
І падхопіць іх плаўна рака,—
Да ўсяе глыбіні дакрануцца
Можа толькі душа мастака.

Неспакой і давер яе вечны,
Як бясконцае гэта жыццё,
Дзе заўсёды багаж чалавечы
Вывяраецца ў нас пачуццём.

Толькі ў сэрцы жывая крыніца
Самых лепшых і чыстых высноў,
Хай жа смела зямля ганарыцца,
Што такіх узрасціла сыноў.

## ЖОЎТЫЯ ВЯРГІНІ

Яны і ў самай дальняй далі,
Нібы калісьці пад акном,
Прывабна, сонечна мільгалі
Спрадвечнай пекнаты агнём.

Яшчэ ад подыху, ад ветру
Не калыхаліся агні,
Было так хораша і светла —
Спакой ды неба ў цішыні.

Яшчэ ні слова пра атруту,
Ні павуцінкі ля павек,
Адну шчаслівую мінуту
Жыццё даверыла навек.

Не заімгліцца і не згіне
Яго пяшчота і любоў.
...Як сонца, жоўтыя вяргіні
Цвітуць пад вокнамі ізноў.



Так запазніліся шляхі,
Аж восень выйшла на дарогу.
А як суняць сваю трывогу?
Аб чым ён шэпча — ліст сухі?

Цвітуць жа недзе верасы,
І неба — колеру надзеі,
А колькі золата надзелі,
Як засвяціліся лясы!

І ўсё ж, чаму, маўчаць лугі,
Няўжо іх песні не пачую,
Чаму ўсё гэтак жа маўчу я,
А сэрца нікне ад тугі?



Не святкуюць без песні, не любяць,
Не разгоняць без песні тугу!
Аніколі шчаслівыя людзі
Не бываюць у песні ў даўгу.

Толькі ў песні жыве таямніца
І вялікая сіла надзей,
Невычэрпная песня-крыніца,
Не замгліцца ніколі, нідзе.

## РАЗВАГА

На той настрой сябе настрой,
Каб і начамі пасвятлела,
Каб не спрачацца нам з табой,—
Глядзець упэўнена і смела.

Пад сілу ўсё!
І толькі так!
Жыццё разгадвае загадкі,
А пакідае ўдача знак,
Таму,
хто верыць без аглядкі.

## ГОД НАДЗЕЙ

### Панядзелак

Хай за акном вятры і восень,
Без чвэрці выйсці трэба ў восем,
Вітацца ветла і ўсміхацца,
Чакаць, ствараць і спадзявацца.
Пад вечар звяжацца з карунак
За дзень пражыты падарунак,
Прымай яго ці не прымай,
Ды ўсё ж у памяці трымай,
Бо знікне ён, як сонца з неба,
А памяці так многа трэба!

Найгорш за ўсё, калі збалела
На сэрца ляжа анямела,
Як матылёк нямы, бяскрылы,
Што ўжо ніяк не знойдзе сілы,
Каб заўтра з вышыні надзей
Зірнуць на свет і на людзей.
І значыць, трэба дзень свой новы
Узвесці з новае асновы.

### Аўторак

Паднімаюся ў шэсць гадзін,
У акно маладзік глядзіць,
Так упэўнена б'юць куранты,—
Пачынаецца дзень з гарантый,
Што спакою, мелодый — мора,
Што на свеце — ніякага гора.
Выбягаю на вуліцу з верай —
Ні мінуты не будзе шэрай.
Не стамлюся, не прыпынюся,
Ад задум сваіх не адступлюся.
Усміхаюцца шчыра сустрэчныя,
І гадзіны ляцяць хуткацечныя.
...Падвяду я пад вечар вынікі,
Час пусты, час загублены выкіну,
І акажацца ўсё — дарэмнае,
І ні вечнага, ні прыемнага,
Ні сляда у душы, ні адмецiны,—
Цэлы дзень мітуснёй замецены.

## Серада

Зноў будзільнік звініць: дзінь-дзінь,
Падымаюся ў пяць гадзін.
Колькі спраў!
Як паспець, як здолець?
Я збіраю ўсю сваю волю,
І на ўлік кожны рух бяру.
Зноў кудысьці хутчэй бягу,
Потым вечарам зноў шкадую,
Што ўзялася за справу не тую,
Зноў так мала зрабіць паспела,
Загубіўся ізноў дзень цэлы.

## Чацвер

Устаю сёння ў пятай гадзіне,
Толькі-толькі яшчэ світае.
Расхінаю шырэй гардзіны,—
Як бальзам, цішыня святая.
Колькі мудрасці ў ёй, развагі,
Неспатольнай жыццёвай прагі,
Колькі яснасці ў першых промнях,—
Назаўсёды яе запомню.
І сальецца яна з тым раннем,
З самым лепшым маім світаннем,
Што і сёння ў душы бессмяротнае,
Выпускное маё, незваротнае,
Як жа мала чаго заўважаецца,
Калі свет паступова звужаецца
На звычайным, будзённым, спешным,
Ці ж не крыўдна, не горка, не смешна,

Што смяяцца таксама некалі,
Што світанне сустрэць нам некалі,
Што схадзіць да сяброў нам некалі,
Жыць і радавацца ўсё некалі!
Прыпыніся ж, мой час, павярніся,
На сур'ёзных нас азірніся.
Лепш такімі нам быць,
як у раніцу тую
Залатую тваю, выпускную?

### Пятніца

Чым менш мітусні, тым ясней
І думкі, і неба высокае.
Іду нетаропкімі крокамі
Іду, як па ранняй вясне.
Мне верыцца, дзень пачынаецца
І будзе ў ім многа святла,
А кожная новая раніца —
Як вечная прага крыла.

## ПАМЯЦЬ

Гучыць яна ў безлічы акордаў,
Аж пальцы ў нечаканасці звядзе,
Такая сіла і такая годнасць
Так цесна не сплятаюцца нідзе.

У ёй прыроды прастата і мудрасць,
І гэткі нечаканы паварот,
Што будзе доўга паўтарэнне мучыць
З прычыны страт, набыткаў і выгод.

Ах, памяць, памяць, дзе твае вытокі?
Аукну — адгукнецца дальні бор.
Як быццам хтосьці запаволіць крокі,
Каб выказаць здагадкі ці дакор.

Напэўна, памяць не маўчыць ніколі
У снах нярэдка набірае высь,
Ці не таму я зноў на тым жа полі,
Дзе паміж кветак чорны абеліск.

Наўкол трава зялёна-маладая,
Яе маўчанне — як самотны ўздых.
Хоць бесклапотна жаўранак спявае,—
Здаецца, плач аднекуль ловіць слых.

...З аўтамата чарга — прама ў грудзі...
Хіба ж памяць такое забудзе?
Дзед старэнькі. Бабулька сівая
Да сябе немаўля прыціскае.

Дзве малыя дзяўчынкі наперадзе.
Пашкадуйце іх, злыя нелюдзі!
...Ля магілы стаю ўстрывожана,
Узіраюся ў прозвішча кожнае,
У знямелыя літары белыя,—

Пахавана тут вёска цэлая.
Толькі памяць не можа змірыцца,—
Вёска гэта начамі сніцца.

...Бразне клямка, як некалі ў хаце.
Дзед мой выйдзе,
на прызбе сядзе,
Можа дудачку зрабіць з бяросты
І зайграе пра даўнія вёсны,
Крыллем певень махне:
ку-ка-рэ-ку...
Пеўні ў вёсцы спявалі спрадвеку.

Потым выплыве дзіўны дом —
Астравок абгарэлай печы,
А над ёй ледзь прыкметны дождж
І разгублены голас нейчы:

Гора, гора, бяда якая,—
Голас моўкне ад цяжкай мукі.
Разаб'ецца сляза ў адчаі
Аб чыесьці здранцвелыя рукі.

Адкуль такія сны?
Няўжо кіно
Мне сэрца развярэдзіла да болю?
Устану, выйду,
пагляджу ў акно...
Зноў памяць!
Не маўчыць яна ніколі.

Зноў тое ж поле. Чорны абеліск,
Дзе сярод кветак лёг і мой букецік,
Каторы раз чытаю доўгі спіс:
Дзяды, жанчыны і малыя дзеці!

Трывожна на зямлі ва ўсе вякі,
І з кожным днём усё трывожней свету.
Зямляне, дарагія землякі,
Чаму ж на нас нацэлены ракеты?

Па ўсёй зямлі ідзе нябачны бой,
Жыццё і смерць, паміж якімі —
людзі.
А новы дзень глядзіць на нас з табой,
Няўжо для ўсіх жывых
яго не будзе!

ЗМЕСТ

**Шаўчонак М.**

**Ш 29** **Раса-расінка: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 70 с.**

**25 к.**

Марыя Шаўчонак жыве і працуе ў Гродні. Яна аўтар паэтычных кніг «Белая ластаўка», «Свята зямлі», «Бацькоўскае імя».

У новай кнізе паэткі ёсць вершы пранікліва-шчырыя, поўныя ўзрушанага роздуму аб тым, што ўбачана і пераЖыта.

**Ш $\frac{4702120200-039}{М\ 302(05)-85}$ 32—85**

**ББК 84Бел7**

**Бел 2**

ШЕВЧЕНОК МАРИЯ СИЛАНТЬЕВНА

**Роса-росинка**

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк
Мастак Г. Г. Малышаў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна
Карэктар Я. Ф. Харко

ІБ № 2147

Здадзена ў набор 26.09.84. Падп. да друку 11.12.84. АТ 06656. Фармат 60×90[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,25. Ум. фарб.-адб. 2,44. Ул.-выд. арк. 2,20. Тыраж 1500 экз. Зак. 787. Цана 25 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.